# Дняпроўская СТРОМА

№ 21 травень 2013 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»


## Наш першы юбілей



Дняпроўская СТРОМА

№ 1 май 2012 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

МАГІЛЁЎСКАГА АБЛАСНОГА АДДЗЯЛЕННЯ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

САЮЗ АФІЦЫЙНА

Красавіцкае папаўненне

12 красавіка адбылося чарговае паседжанне Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Адбылося абмеркаванне творчасці кандыдатаў на ўступленне ў сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў. У выніку тайнага галасавання рашэннем Рады шэрагі старэйшай творчай арганізацыі папоўнілі сем літаратараў.

Сярод іх: АЎСЯННІКАВА Тамара Пятроўна. Нарадзілася 24.05.1949 г. у в. Сяўкі Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага Універсітэта. Працавала настаўніцай, бібліятэкаркай, інжынерам, метадыстам, загадчыкам крамы. Атрымала другую вышэйшую адукацыю эканаміста. Аўтар лекцый для настаўнікаў-філолагаў па тэорыі вершаскладання і аналізе паэтычных твораў, артыкулаў па творчасці Н. Гілевіча і Я. Янішчыц. Піша паэзію і прозу. Аўтар кніг вершаў «Ноты сэрца» (2009), «Лістапад гадоў» (2010), кнігі прозы «Любачка» (2011).

БУЛАВАЦКІ Міхась Пятровіч. Нарадзіўся 11.10.1947 г. у в. Восы Глускага раёнана Магілёўскай вобласці. Скончыў фізіка - матэматычны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута. Працаваў настаўнікам, выкладчыкам. З 1977 г. выступае як журналіст. У 1988 г. стаў адным з заснавальнікаў магілёўскай філіі аб'яднання "Мартыралог Беларусі". З'яўляецца кіраўніком магілёўскай суполкі Беларускага ПЭН-цэнтру. З пачатку 90-х займаецца літаратурнай дзейнасцю, піша вершы, перакладае з расійскай мовы. У 1999 г. выйшла кніга вершаў В.Высоцкага «Я не падману» ў перакладзе М. Булавацкага. Эсэ "Ноч свабоды" заняло прызавое месца ў літаратурным конкурсе "Мая свабода", праведзеным радыё "Свабода".

УКРАІНКА Сяргей Сяргеевіч. Нарадзіўся 25.01.1961 года ў в. Ніканавічы Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага Універсітэта, аспірантуру ў Магілёўскім дзяржаўным Універсітэце імя А.А.Куляшова. Працаваў настаўнікам, выкладчыкам на кафедры беларускай літаратуры і журналістыкі ў МДУ імя А.А.Куляшова, будаўніком; цяпер працуе ахоўнікам.

Друкуецца з 1977 г., аўтар шматлікіх публікацый вершаў у перыёдыцы, зборніка паэзіі «Маё Купела» (2001 г.). ("Літаратурная Беларусь")

Віншуем!

Наперадзе - праца

Адноўлена Магілёўскае аддзяленне ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"

26 красавіка адбылося пасяджэнне Магілёўскага аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў". У парадку дня пасяджэння стаялі два пытанні:
1. Аб аднаўленні дзейнасці Магілёўскага аддзялення СБП;
2. Выбары старшыні аддзялення.

Праца пасяджэння пачалася з уручэння пісьменніцкіх пасведчанняў нядаўна прынятым у шэрагі СБП Тамары Аўсяннікавай, Міхасю Булавацкаму і Сяргею Украінку.

У абмеркаванні пытанняў ўзялі ўдзел Яраслаў Клімуць, Фелікс Шкірманкоў, Мікола Яцкоў, Міхась Булавацкі і іншыя.

Аднагалосна было прынята рашэнне аб аднаўленні дзейнасці Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. На пасаду старшыні Магілёўскага аддзялення абраны пісьменнік Мікола Яцкоў.

Кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў на пасяджэнні прадстаўляў намеснік старшыні СБП Эдуард Акулін.

Пасведчанне уручаецца Т.Аўсяннікавай...

Хвалюючы момант для М.Булавацкага...

АФІЦЫЙНА

ПРАТАКОЛ №1 пасяджэння Магілёўскага аддзялення Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» ад 26.04.2012 г.

Прысутнічалі: Мікола Яцкоў, Яраслаў Клімуць, Сяргей Украінка, Міхась Булавацкі, Фелікс Шкірманкоў, Алена Казлова (Анка Упала), Тамара Аўсяннікава.

ПАРАДАК ДНЯ:
1. Аб аднаўленні дзейнасці Магілёўскага аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
2. Выбары старшыні аддзялення.
3. Рознае.

Па першаму пытанню выступілі: Клімуць Я.І., які выказаў думку аб неабходнасці аднаўлення Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», тым больш, что зараз мы маем на гэта юрыдычнае права;

Булавацкі М. П., які адзначыў, што стварэнне аддзялення дасць нам магчымасць разгарнуць працу па ўмацаванню роднай мовы.

Шкірманкоў Ф.У., Украінка С.С., Акулін Э.А. выказаліся па пытаннях аднаўлення літаратурнага жыцця.

ПАСТАНАВІЛІ:

Аднавіць дзейнасць Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Галасавалі аднагалосна.

Па другому пытанню выступіў Акулін Э.А. Паступіла прапанова абраць старшынёй Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Міколу Яцкова.

Кандыдатуру Яцкова М.А. падтрымалі Аўсяннікава Т.П., Украінка С.С., Булавацкі М.П., Шкірманкоў Ф.У., Клімуць Я.І.

ПАСТАНАВІЛІ:

Абраць Яцкова Мікалая Адамавіча старшынёй Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Галасавалі аднагалосна.

Па трэцяму пытанню выступілі Яцкоў М.А., Булавацкі М.П., якія выказаліся аб выданні літаратурнага альманаха, аб наладжванні сувязей з выканаўчымі органамі ўлады, бібліятэкамі і грамадскімі арганізацыямі горада і вобласці.

СТАРШЫНЯ ПАСЯДЖЭННЯ М.ЯЦКОЎ, САКРАТАР Т.АЎСЯННІКАВА.

С. Украінка не хавае сваёй радасці...

Ідзе абмеркаванне галоўнага пытання...

У ветэранаў пісьменніцкага цэху Яраслава Клімуця і Фелікса Шкірманкова заўсёды слушныя заўвагі і парады...

Фота М.Яцкова і Э.Акуліна

Роўна год таму, у траўні 2012 г., пабачыў свет першы нумар "Дняпроўскай Стромы" – літаратурна-мастацкага і інфармацыйнага бюлетэня Магілёўскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў". Старонкі "Стромы" – гэта і інфармацыйная прастора, дзе адлюстроўваецца шматвектарнасць жыцця аддзялення, і творчая пляцоўка, дзе знаходзяць сваё месца ўзнёслыя набыткі сябраў нашай творчай суполкі. Няхай так будзе і надалей!

*Мікола ЯЦКОЎ, адказны за выпуск.*

## Віншаванне са святам




Напярэдадні Дня Перамогі Магілёўскае аддзяленне ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" атрымала віншаванне ад старшыні Магілёўскага ГА "Рускае культурна-асветніцкае таварыства" Людмілы Аляксандраўны ВАЛОДЗЬКА:

*Паважаныя калегі!*

*Сардэчна віншуем вас з Днём Перамогі! У гэтым светлым і велічным святе непадзельна зліліся смутак і радасць, гонар і слёзы. Мы з асаблівым пачуццём ўспамінаем тых, хто адстаяў мір на нашай зямлі, тых, хто ўзнагародзіў нас неацэнным дарам – магчымасцю жыць, кахаць і гадаваць дзяцей, быць шчаслівымі і свабоднымі. Моцнага вам здароўя, міру і дабрабыту на доўгія гады!*

*ГА «Рускае культурна - асветніцкае таварыства»*




## Тамара АЎСЯННІКАВА : "Самы дарагі і шчымлівы дзень..."

**"9 мая - самы дарагі і шчымлівы для мяне дзень. Я не магу стрымліваць слёзы, калі чую "Марш славянкі", калі ў каторы раз гляджу дакументальныя кадры ваеннага часу альбо фільмы "Ляцяць журавы", "Беларускі вакзал" ці іншыя. Успамінаю сваіх бацькоў..."**

(Заканчэнне на с.4-5)

## Ушанаванне паэта-франтавіка

Са Слаўгарада прыйшла прыемная навіна: Беларускі рэспубліканскі Савет ветэранаў уганараваў званнем "Ганаровы ветэран" паэта-франтавіка, сябра ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Фелікса Уладзіміравіча Шкірманкова. На ўрачыстым пасяджэнні адпаведны знак Ф.Шкірманкову ўручыў старшыня Слаўгарадскага Савета ветэранаў Анатоль Мартынаў. У сваім зваротным слове Ф.Шкірманкоў выказаў удзячнасць за ўзнагароду, паабяцаўшы і надалей аддаваць усе свае сілы і талент роднай Беларусі і яе светлай будучыні. Паэт прапанаваў, каб ягоныя веды і вопыт больш шырока выкарыстоўваліся ў справе патрыятычнага выхавання і уручыў сваю кнігу вершаў "Пад прысягай сумленню" старшыні Слаўгарадскага райвыканкама Паўлу Найдзёну. Кніга і прапанова былі з удзячнасцю прыняты.



Анатоль Мартынаў уручае знак Феліксу Шкірманкову



Павел Найдзён атрымлівае кнігу ад аўтара

*С.Пісьменны.*



Слова ветэрана



Ускладанне вянкоў

Фотаздымкі Ул.Рыжанкова (газета "Прысожскі край")

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

## Святкуе Слаўгарадчына

ПК

пятніца 17 мая 2013 г. № 39-40(9522-9523)

ПРЫСОЖСКІ КРАЙ

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА СЛАЎГАРАДСКАГА РАЁНА

САЙТ ГАЗЕТЫ: www.slavgorod.by

ЗАСНАВАНА Ў 1932 ГОДЗЕ

Ветэран вайны Ф. У. Шкірманкоў звярнуўся са словамі падзякі за памяць пра вызваліцеляў, пра ветэранаў, прачытаў свой верш, напісаны як рэквіем па загінуўшых, як здравіца пераможцам той жудаснай вайны. Ён прапанаваў хвілінай маўчання ўшанаваць салдат, якія не вярнуліся з Вялікай Айчыннай вайны.



# Нарадзіліся ў траўні

► 4 траўня 1919 г. у в.Тоўсты Луг Суджанскага раёна Курскай вобласці нарадзіўся Пётр Паўлавіч ШАСЦЕРЫКОЎ – празаік, перакладчык, публіцыст.

► 7 траўня 1919 г. у в.Рэкатка Горацкага раёна нарадзіўся Георгій Міхайлавіч ШЧАРБАТАЎ – празаік, крытык.

► 9 траўня 1945 г. у в.Цяляткава Мсціслаўскага раёна нарадзіўся Генадзь Фёдаравіч БУБНАЎ – паэт, перакладчык, крытык.

► 10 траўня 1931 г. у в.Нова-Аляксандраўка Дрыбінскага раёна нарадзіўся Сцяпан Захаравіч ГАЎРУСЁЎ – паэт, перакладчык, крытык.

► 11 траўня 1944 г. у в.Еновы Востраў Клічаўскага раёна нарадзілася Марыя Сіланцьеўна ШАЎЧОНАК – паэтэса.

► 13 траўня 1941 г. у в.Ордаць Шклоўскага раёна нарадзіўся Анатоль Станіслававіч СЕРБАНТОВІЧ – паэт.

► 15 траўня 1922 г. у в.Сямёнаўка Клімавіцкага раёна нарадзіўся Пятро Савельевіч ВАСІЛЕЎСКІ – празаік, драматург.

► 22 траўня 1930 г. у в.Улукі Слаўгарадскага раёна нарадзіўся Іван Кірылавіч ЦІШЧАНКА – фалькларыст, літаратуразнавец.

► 24 траўня 1910 г. у м.Касцюковічы нарадзіўся Залман Рувімавіч (Зяма Раманавіч) ПІВАВАРАЎ – паэт, перакладчык

► 27 траўня 1931 г. у в.Раздзел-2 Мсціслаўскага раёна нарадзіўся Васіль Пракопавіч ЖУРАЎЛЁЎ – літаратуразнавец, крытык.



## З Днём Нараджэння!

22 траўня
дзень нараджэння
адзначае
Мікола Адамавіч ЯЦКОЎ

24 траўня
дзень нараджэння
адзначае Тамара Пятроўна
АЎСЯННІКАВА

27 траўня
дзень нараджэння
адзначае
Фелікс Уладзіміравіч
ШКІРМАНКОЎ

Віншуем!

# Новая вышыня Навума Сандамірскага



Напрыканцы красавіка Навум Барысавіч Сандамірскі стаў членам Беларускага Цэнтра міжнароднага ПЭН - клуба (клуб пісьменнікаў, эсэістаў, навэлістаў).

Н.Сандамірскі – член Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага саюза журналістаў, неаднаразовы пераможца і прызёр абласных і рэспубліканскіх конкурсаў, лаўрэат рэспубліканскай прафесійнай прэміі «Залатое пяро» і ў нядаўнім мінулым рэдактар глускай раённай газеты “Радзіма”.

ПЭН-клуб – няўрадавая і непалітычная арганізацыя, створаная для пашырэння інтэлектуальнага супрацоўніцтва прадстаўнікоў творчых прафесій. У нашай краіне яна ўтворана адносна нядаўна – хутка адзначыць сваё 25-годдзе. Клуб дапамагае прафесійным літаратарам Беларусі актыўна ўдзельнічаць у міжнародным літаратурным працэсе, супрацоўнічаць з пісьменнікамі і журналістамі усяго свету.

Рэкамендацыю на ўступленне ў Беларускі Цэнтр міжнароднага ПЭН-клуба нашаму земляку даў вядомы беларускі пісьменнік Генадзь Бураўкін, ён жа першым і павіншаваў Навума Барысавіча, заўважыўшы, што адбылося тое, што павінна было адбыцца.

Мы далучаемся да віншаванняў і зычым нашаму сябру новых творчых поспехаў!



**Народная Воля** 24 МАЯ 2013 г.

ВІНШУЕМ!

### Фелікс ШКІРМАНКОЎ

*27 мая — 87 гадоў*



Фелікс Шкірманкоў нарадзіўся 27 мая 1926 года ў Прапойску, сённяшнім Слаўгарадзе. Ён — ветэран вайны.

Пятнаццацігадовым падлеткам Фелікс Шкірманкоў стаў у шэрагі абаронцаў Айчыны. Пасля доўгі час працаваў геолагам на Далёкім Усходзе. Яго вяртанне ў Беларусь супала з бурлівымі падзеямі распаду СССР. Землякі абралі Фелікса Шкірманкова старшынёй Слаўгарадскага гарадскога савета народных дэпутатаў.

Фелікс Шкірманкоў ужо мае некалькі кніг рознага літаратурнага жанру. Сярод яго твораў — успаміны, замалёўкі, абразкі, ваенныя апавяданні, паэтычная кніга на рускай мове, кнігі вершаў на роднай мове.

# Валерый Казакоў падарыў Магілёву кніжныя рарытэты

13 мая ў Магілёўскай ратушы адбылася прэзентацыя набытага экзэмпляра Статута Вялікага Княства Літоўскага.

Падараваны асобнік Статута ВКЛ быў выдадзены ў Вільні ў 1744 годзе на польскай мове.

Пошукамі рарытэта займаўся калекцыянер Аляксандр Коган, грошы ахвяраваў пісьменнік, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, кіраўнік Федэральнай нацыянальнай культурнай аўтаноміі “Беларусы Расіі”





Валерый Казакоў

Валерый Казакоў. Па словах апошняга, за кнігу прыватная асоба з Кастрамы запрасіла менш за тысячу долараў.

*— Уладальнік Статута нават не разумеў яго каштоўнасці. Ён быў упэўнены, што мае падручнік па польскай гісторыі,* — кажа Валерый Казакоў. — *Гэта сведчыць пра тое, што многія нашыя каштоўна-*

(Заканчэнне на с.3)



## Фелікс ШКІРМАНКОЎ

### ЧАМУ ПРЫХОДЗІЦЬ СА СПАЗНЕННЕМ?



Усё часцей мне не дае спакою
Пра маці з бацькам успамін.
Чаму так мала сваёй ласкі
Я ім у жыцці аддаў, як сын?
Чаму прыходзіць са спазненнем
Пачуцце ўласнае віны,
Калі вярнуць, змяніць нічога.
На жаль, ужо не можам мы?
А ім жа многага не трэба,
Яны ў раскошы не жылі,
І ў сваіх патрабаваннях
Прыстойна сціплымі былі.
Я разумею, што нічога
Ужо не паправіць, не змяніць.
І гэты боль мой не дае мне
Цяпер ні дня спакойна жыць.
Старая, вечная дылема:
Бацькі і дзеці. І яе
Да часу мы не заўважаем –
Праблемы ў кожнага свае.
Як дзень змяняе цемру ночы,
Так надыходзіць і для нас
Пара – расплюшчваюцца вочы,
Калі прыходзіць судны час.
Не той апошні, што чакае,
Які нікога не міне, –
А свой зямны час запытае...
Вось ён прыйшоў і да мяне...

### Я ГЭТА ЎРЭШЦЕ ЗРАЗУМЕЎ



Адкуль прыходзяць да мяне
Радкі – мне невядома.
Бывае ў лесе, ля ракі,
Як спаць кладуся дома.
І мне тады ужо ад іх
Ніяк не ўратавацца.
Я спрабаваў, ды не магу
Ні збегчы, ні схавацца.
Я занатоўваю ўсё.
Што ў гэты момант чую,
І ўжо пад прозвішчам сваім
Чарговы верш друкую.
Абвінавачваць пакуль
У брудным плагіяце
Ён не збіраецца мяне –
Ён мой хаўруснік, браце.
Той, хто настойліва ўвесь час
Радкі мне дасылае.
І ад мяне за гэта ён
Падзякі не чакае.
Я гэта ўрэшце зразумеў
І нават рассмяяўся,
Бо сябра новага знайшоў,
А ад яго хаваўся!

* * *

Вясна.
Сонечны ранак.
Выходжу з хаты на ганак.
За мною рыжы кот,
Трэцца бокам аб бот.
Падышоў певень –
Хвост сярпом.
Косіць вокам.
Дзюба кручком.
Ля гумна
Вераб'і спрачаюцца,
Убачылі рыжага ката.
Пад страхой хаваюцца.
Распусціў суквецці бэз,
Водар непаўторны.
Гляджу на гэту прыгажосць
І забываю, што я госць
Тут – на гэтым свеце.



# Валерый Казакоў падарыў Магілёву кніжныя рарытэты

Пачатак на с.2

*сці, якія захоўваюцца ў прыватных калекцыях і музеях замежжа, там не патрэбныя. Іх магчыма выкупіць за невялікія грошы. Толькі гэтым трэба займацца: шукаць, дамаўляцца, вывучаць. А сёння вяртаннем культурнай спадчыны займаюцца асобныя апантаныя людзі. І часам сорамна і не зразумела за што некаторыя чыноўнікі Міністэрства культуры атрымоўваюць заробкі?*


Статут

*— У адрозненне ад выкупленага намі раней асобніка Статута ВКЛ, гэтая кніга не з'яўляецца ўнікальнай,* — распавядае дырэктар Музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў. — *Падобны асобнік захоўваецца, напрыклад, у Мінску. Ён уяўляе сабой канвалют з трох асобных выданняў. Гэта значыць, што акрамя Статута ВКЛ у кнізе пад адной вокладкай змешчаны «Трыбунал ВКЛ» і «Інструктаж». Але асаблівую каштоўнасць тут маюць так званыя маргіналіі, пазнакі на старонках выдання. Эксперты высветлілі, што ўладальнікам кнігі быў шляхціч з Магілёўшчыны Антоній Сабанскі.*

*— Для мяне сёння надзвычай хвалюючы дзень,* — кажа гісторык Ігар Марзалюк. — *Толькі што я даведаўся, што гэты экзэмпляр Статута ВКЛ мае непасрэднае дачыненне да майго роду з Мсціслаўшчыны. Гэта цуд нейкі.*


Рарытэты

*— Гісторыя вяртання Статута, дзейнасць Валерыя Казакова — гэта ўзор таго, як важна любіць сваю краіну не словам, а справай,* — лічыць Ігар Марзалюк.– *Напрыклад, цяпер вядуцца работы па аднаўленні замка і сінагогі ў Быхаве. Дзяржавай прынята рашэнне акумуляваць усе сродкі на гэтыя аб'екты. А тым часам, на дабрачынны рахунак Сінагогі паступіла ўсяго паўтара мільёна рублёў. А толькі на рамонт даху патрэбна паўтара мільярда. Гэта да таго, што ўсім неабыякавым людзям варта забыцца на ўсе палітычныя і канфесійныя непаразуменні, перастаць абмяркоўваць і пачаць дзейнічаць на карысць краіны.*

Акрамя таго, удзельнікі прэзентацыі змаглі ўбачыць і іншыя экспанаты, набытыя з дапамогай Валерыя Казакова – “Собрание сочинений Георгия Конисского” 1835 года і "Вестник Могилевского земства” 1915 года. Яны, як і новы Статут, застануцца ў Музеі гісторыі Магілёва.


Валерый Казакоў адказвае на пытанні

У гэты ж дзень Валерый Казакоў наведаў абласную бібліятэку і прыняў удзел у імпрэзе “Баркалабаўскі летапіс – нацыянальная каштоўнасць беларусаў”. Падчас імпрэзы В. Казакоў зрабіў падарунак – перадаў абласной бібліятэцы факсімільныя выданні “Баркалабаўскага летапісу” і “Слуцкага Евангелля” і адзначыў, што кнігу трэба берагчы, бо пакуль будуць існаваць кнігі – будуць і людзі жыць. Пісьменнік заўважыў, што калі ён вучыўся ў магілёўскай школе № 24, то быў чытачом бібліятэкі, але як літаратар наведаў яе ўпершыню. Таксама наш зямляк расказаў пра сябе і адказаў на шматлікія пытанні прысутных.

**Ю.Б.**

*Фотаздымкі - gorad.by*

# Пісьмянкоў луг сабраў сяброў

Сапраўдным культурным брэндам для Касцюковіцкага раёна стала свята паэзіі і аўтарскай песні "Пісьмянкоў луг", які збірае знаўцаў і аматараў паэзіі і аўтарскай песні не толькі з усіх куткоў Беларусі, але і Расіі. Невыпадкова, «Пісьмянкоў луг» мае гановы статус абласнога.




Па словах начальніка ўпраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкама Анатоля Сінкаўца, не за гарамі той час, калі «Пісьмянкоў луг» набудзе статус рэспубліканскага свята паэзіі і аўтарскай песні.



У гэтым годзе першы дзень, 24 траўня, быў цалкам прысвечаны паэзіі. У дзіцячай школе мастацтваў майстры слова чыталі свае творы, вершы Алеся Пісьмянкова.

У другі дзень свята перамясцілася на малую радзіму Алеся – ў вёску Бялынкавічы, дзе на Пісьмянковым лузе было шмат чаго цікавага. Развінула свае крылы конкурсная праграма, у якой кампетэнтнаму журы было нялёгка прыняць рашэнне аб пераможцах. У канцэртнай праграме прагучалі выступы літаратараў Магілёўшчыны, сярод якіх асаблівай паэтычнай узнёсласцю вызначыўся паэт-франтавік, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Фелікс Уладзіміравіч Шкірманкоў. Народныя майстры з дзесяці раёнаў Магілёўшчыны разгарнулі свае выставы. Восем раёнаў прадставілі літаратурныя экспазіцыі аб сваіх пісьменніках-земляках. Непаўторнае баявое мастацтва паказалі удзельнікі ваенна-гістарычнага рэканструктарскага клуба «Ратнік». А ўвечары былі вогнішча і, вядома, песні пад гітару.

*www.golk.by*

Фотаздымкі І.Кавалёва і У.Рыжанкова.

# Максіма Гарэцкага ўшанавалі ў Расіі

24 траўня 2013 г. у горадзе Кіраве (да 1936 года — мястэчка Пясочня) Калужскай вобласці з'явілася мемарыяльная дошка ў гонар класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Пісьменнік жыў у гэтым горадзе два апошнія гады свайго жыцця.




Дошка адкрыта на будынку былой Пясочненскай сярэдняй школы № 1 (цяпер у будынку размяшчаецца школа-інтэрнат для дзяцей з праблемамі слыху).

У школе Максім Гарэцкі працаваў два навучальныя гады: выкладаў рускую мову і літаратуру. Тут у лістападзе 1937 года ён быў арыштаваны органамі НКУС і 10 лютага 1938 года расстраляны ў Вяземскай турме.

Таксама хутка ў памяшканнях школы з'явіцца стэнд з матэрыяламі аб жыцці і дзейнасці пісьменніка.

Максім Гарэцкі — адзін са стваральнікаў беларускай літаратурнай мовы, стаяў ля вытокаў нацыянальнай літаратуры, стварыў нямала выдатных твораў, пражыў кароткае, але вельмі насычанае добрымі стваральнымі справамі жыццё. Ён знаёміў беларусаў з дасягненнямі рускай літаратуры: пераклаў на родную мову «Слова пра паход Ігараў», шэраг твораў Горкага, Фадзеева і іншых пісьменнікаў. Склаў і выдаў руска-беларускі і беларуска-рускі слоўнікі . У гісторыі культуры пакінуў свой след як літаратуразнаўца, лінгвіст, фалькларыст, літаратурны крытык, журналіст, рэдактар. Акрамя гэтага, Максім Гарэцкі пастаянна выкладаў у ВНУ і тэхнікумах, стаяў ля вытокаў стварэння нацыянальнай Акадэміі навук .

Напомнім, у Беларусі ў мінулым годзе было прынята рашэнне аб зносе дома, у якім жыў Максім Гарэцкі ў Горках.

*Паводле “Еўрарадыё“*

# Тамара АЎСЯННІКАВА : "Самы дарагі і шчымлівы дзень..."



Я – дзіця пасляваеннага часу, але ж адгалоскі вайны ўвашлі ў мяне расповедамі родных, генетычнай памяццю.

*З пажоўклага фотаздымка*
*глядзяць на мяне*
*яшчэ маладыя,*
*але без часу пастарэлыя*
*бацька і маці,*
*ва ўдумлівых паглядах якіх*
*столькі перажытага,*
*што хапіла б*
*на некальці жыццяў.*

## Бацька

Мой бацька, Краўчанка Пётр Цімафеевіч (1897 - 1970), радавы салдат Пер-



Пётр Цімафеевіч Краўчанка

шай сусветнай вайны і Вялікай Айчыннай. Ён прымаў удзел у штурме Берліна, дзе змагаліся за кожны дом. І ў кожным – салдаты-смертнікі. Бацька мужна, без нараканняў вытрымаў усе цяжкасці і наступствы ваеннага часу. Зведаў газавыя атакі ў Першую сусветную, голад у час блакады Ленінграда, перанёс раненні і кантузію.

*Свечкі на вокнах*
*У былым Ленінградзе.*
*Блакада боллю*
*Ў сэрцы адзываецца.*
*І мой бацька там быў. Быў!*

Ён не любіў расказваць пра вайну, асабліва прылюдна. Хоць і не часта, але ж здараліся моманты, калі адпускаў сваё сэрца. Лічыў, што выжыць яму дапамог прынцып, якога ён прытрымліваўся: ніколі нічога не здымаць з забітых, не рабаваць. *"Мы адступаем. Восень, дождж, халадэча... у чобатах хлюпае гразь, – успамінаў бацька. – Ляжыць забіты салдат, чобаты новыя. Аднапалчанін прапанаваў мне зняць, бо мае зусім расхрысталіся. Я адмовіўся. Ён з радасцю абуўся, а праз колькі крокаў быў забіты. Другі выняў з кішэні забітага люстэрка, а пагледзецца ў яго не паспеў. На гадзіннік пазарыўся трэці – і яго напаткаў той жа лёс. Адзін раз за ўсю вайну я надзеў на сябе чужую рэч. Гэта была нямецкая каска. Лета, спякота, вусны перасохлі ад смагі. Уздоўж дарогі нямецкая каска валяецца. Нейкая сіла прымусіла мяне надзець яе. Снайпер цэліўся ў скроню. Куля прабіла навылёт нос. Дзіўна, што ад нямецкай кулі мяне ўратавала нямецкая каска".*

Маімі цацкамі ў дзяцінстве былі бацькавы ўзнагароды. Мы хваліліся імі адзін перад адным. Сорамна сёння прызнацца, што я не ведаю гэтых узнагарод. Дакументаў не захавалася. Не захавалася і саміх ардэноў і медаляў. Іх бацька ніколі не насіў, ды і параднага касцюма ў яго не было. А ў каго яны былі ў вёсцы? У нашым калгасе імя М.Горкага толькі з 1969 года пачалі на працадні даваць грошы, дакладней грашы. Але бацька па стану здароўя на працу хадзіць не мог. Аднавяскоўцы здзіўляліся:

– Пятро Цімафеевіч, чаму ты не падаеш дакументы, каб атрымліваць пенсію? У цябе ж столькі раненняў і ўзнагарод!"

– Мне ўжо нічога не трэба, – адказваў, – бачыце, у зямлю гляджу.

Ад бацькі я ніколі не чула расповедаў пра геройствы на вайне. Тое, што мне здавалася гераічным, ён лічыў нормай, буднямі. Яшчэ ў школьныя гады я ведала аб вайне значна больш, чым магла прачытаць у кнігах. У самым пачатку сямідзесятага года бацькі не стала. Я была студэнткай 3 курса БДУ імя Леніна. У мяне захаваўся ўсяго адзін бацькаў здымак ваеннага часу: 1915 года. Гэтымі скупымі ўспамінамі я выказваю ўдзячнасць свайму бацьку і такім, як ён, радавым салдатам Вялікай Айчыннай вайны.

*Снайпер фашысцкі*
*сядзіць на сасне,*
*Цэліца ў скроню.*
*Бацька-салдат па Еўропе ідзе,*
*Пот выцірае далонню.*

*Смагай спякота*
*на вуснах застыла,*
*Ногі здранцвелі.*
*Каску нямецкую нейкая сіла*
*Насуперак волі надзела.*

*Дагнала салдата*
*варожая куля -*
*З чужою зямлёю*
*змяшалася кроў,*
*Змоўкла на момант*
*у лесе зязюля,*
*Ды кукаваці ўзялася ізноў.*

*- Дзякуй, зязюля,*
*кувай мне гадочкі,*
*Трэба вярнуцца жывым,*
*Дома чакаюць*
*тры кветачкі-дочкі,*
*Бацька і маці я ім.*

*Мой будучы бацька*
*вярнуўся дамоў,*
*Я нараджэння чакала.*
*Нямецкая каска*
*ад смерці ліхой*
*Бацьку майго ўратавала.*

## Маці

У маёй маці, Краўчанка Макрэны Пятроўны (1907 - 1990), свая гісторыя. Немцы акупіравалі Гомельшчыну ў самым пачатку вайны. Муж на фронце, на руках тры дзяўчынкі. Малодшай – два гады. Са 150 двароў у вёсцы к канцу вайны засталося тры хаты. Жылі ў зямлянках.

Аднойчы яе ледзве не расстралялі немцы, заступіўся адзін з іх, у якога загінула ўся сям'я, дом трапіў пад бамбёжку. Ён перачытваў пісьмо з дому, углядаўся ў фотаздымак, на якім была жонка з дзецьмі, плакаў і паўтараў: "Гітлер капут! Сталін капут!"

Не выходзіць з памяці адна гісторыя, пачутая ад маці. Старшыня аднаго з калгасаў быў камандзірам партызанскага атрада. Немцы з паліцаямі прыйшлі забіраць сям'ю. Каб выслужыцца перад немцамі, адзін паліцай выхапіў з рук жонкі камандзіра немаўля, узяў за ножкі і ўдарыў галавою аб дрэва. Нямецкі салдат выстраліў у паліцая. Гэта



Макрэна Пятроўна Краўчанка

гісторыя рэальная. Фашызм не мае нацыянальнасці. Мясцоваму насельніцтву было складана: днём рабавалі немцы: "Матка, яйкі, матка, шпік". Ноччу забіралі партызаны тое, што заставалася. Маці заўсёды гаварыла: "Каму вайна, а каму – маць радна; паўсвету плача, а паўсвету скача". Вяскоўцы свой скарб прыхоўвалі. Палатно, посцілкі закопвалі ў зямлю. Ды мала ў каго той скарб збярогся. "Я ночы не дасыпала, горбілася над самапрадкаю, кроснамі, ўсё прапала", – расказвала маці.

Страшнай бядою ваеннага часу стаў тыф, які касіў людзей, нібы касою. Хварэлі ўсе. У маленькай хатцы, дзе жыла маці з дзецьмі, на падлозе ўпокат ляжала чалавек 15 – свае, родныя, аднавяскоўцы. Маці разам са старэйшай трынаццацігадовай дачкою Анютай усіх выхадзілі. Захварэлі яны апошнімі і найбольш цяжка. Анюту пахавалі. Маці даведалася аб смерці дачкі, толькі калі пачала адчуняць. І зноў правалілася ў забыццё. Муж прапаў без вестак. У 1948 годзе яна сышлася з маім бацькам, які да гэтага часу выдаў замуж трох дачок і мог паклапаціцца пра сябе. 26 гадоў ён быў удаўцом. Жонка памерла маладой, хварэла на сухоты, пакінуўшы яму трох маленькіх дзяўчынак. У 1949 годзе на свет з'явілася я, бацьку было 52 гады, а маці – 42.

*Маці дастойна прайсці хацела*
*Богам наканаваны шлях.*
*Шчасця і радасці мала мела –*



Макрэна Пятроўна і Пётр Цімафеевіч Краўчанкі

*Кросны, кудзеля...браты на руках.*

*У школу з вялікай ахвотай*
*хадзіла -*
*Да ведаў цягнулася сэрца.*
*У хоры царкоўным дыскантам*
*пела.*
*- Хопіць, - бабуля сказала, -*
*дзеўцы вучоба не трэба.*

*Зведала крыўду, голад, нястачу,*
*Шчырай у працы і ў словах была,*
*Бачыла зводдаль нават удачу –*
*Хмары закрылі... Вайна.*

*Муж без вестак прапаў,*
*недзе згінуў.*
*Ад тыфу дачка памерла.*
*Ў зямлянках хаваліся лета і зіму –*
*Выпрабаванне Богава, пэўна.*

*Маці дастойна хацела памерці:*
*Пры памяці і на сваіх нагах.*
*Барані бог, каб нікому не надаесці*
*І душу не ахутаў бы страх.*

*Маці дастойна шлях свой*
*прайшла.*
*Сілу яе на сабе прымяраю.*
*Шляхам іду, як матуля ішла.*
*Долю не зменіш, а я й не жадаю.*

## Цётка

Была ў мяне цудоўная цётка Гарпіна. Гулева Агрыпіна Пятроўна (1920 - 2008). Я доўга не ведала, што мая роднenькая



Агрыпіна Пятроўна Гулева

цётка, дзядуля і бабуля па маці былі ў канцэнтрацыйным лагеры. Вясной 1944 года жыхароў Брагінскага раёна немцы гналі ў Азарыцкі лагер смерці, створаны нямецка-фашысцкімі захопнікамі як жывая заслона на шляху

наступлення Савецкай Арміі. Разам з цёткаю былі яе дзеці: пяцігадовы Пеця і трохгадовая Танечка. Знясіленая дарогай, адсутнасцю вады і ежы ісці дзяўчынка не магла. Яна плакала і прасіла піць. Цётка несла яе на руках, адставала ад калоны. Нямецкі салдат са злосцю ў голасе прысцешваў яе: "Матка, шнэль, шнэль!" З кожным "шнэль" незадаволенасць яго ўзрастала. Танечка плакала. Фашыст вырваў з рук маці дзіця, кінуў на ўзбочыну і выпусціў чаргу з аўтамата. Цётка ірванулася ўбок дачушкі, але адчула моцны ўдар прыкладам і, напэўна, звалілася б на зямлю, каб яе не падхапілі бацька з маці. Яны волакам пацягнулі знепрытомненае цела дачкі...

Я слухала цётку і думала: як можна такое перанесці? Яна гаварыла быццам бы не пра сябе, але адчувалася, што ўспамін развярушыў боль. Муж цёткі, Цярэшка, з вайны не вярнуўся. Цётка замуж не выйшла, але ў 1952 годзе нарадзіла сабе дзяўчынку, якую назвала Таццянай. Цётка працавала даяркай на ферме, была стаханаўкай. Вельмі артыстычная натура. Кожную праверку ці прадстаўнікоў раённай газеты яна сутракала ў новай ролі.

*Агрыпіна Пятроўна Гулева з дачкой Таццянай і Еўдакія Васільеўна Плюшчай (бабуля па маці)*

Цётка Гарпіна і яе хата былі тым бацькоўскім кутком, куды летам з'язджалася ўся радня. Яна раздавала гасцінцы, зробленыя сваімі рукамі – ручнікі, посцілкі. А восенню зноў садзілася за кудзелю і кросны, рыхтавала новыя гасцінцы. Аднойчы пажалілася: "Цяжка мне даюцца ўжо кудзеля з кроснамі". На маю заўвагу, што гасцінцы везці наш клопат, а не яе, яна па-добраму ўсміхнулася: "Дык бяруць жа, ніхто не адказваецца ад маіх гасцінцаў".

*Агрыпіне Пятроўне Гулевай*

*Ты адна засталася з радні.*
*З табой бачымся, мілая, рэдка.*
*Пралятаюць Падвеямі дні*
*Ды на твары –*
*адметка, адметка.*

*Шлях твой Доля з Нядоляю*
*выткалі,*
*Палатно на шчасце расквецілі:*
*Вышывалі чырвона-чорнымі*
*ніткамі,*
*Непасільнаю працаю песцілі.*

*Ты на долю не скардзілась*
*і не ныла,*
*Працавала, жыла, весялілася.*
*Дабрыні і цяпла на сотні хапіла,*
*Аддаваць за жыццё*
*не стамілася.*
*Я табой ганарюся, радзімая,*
*Прыпадаю да рук тваіх*
*стомленых.*
*Прыгажосць недасяжная,*
*дзіўная*
*У паглядзе вачэй тваіх удовіных.*



*Аляксандр Пятровіч Плюшчай і Іларыён Пятровіч Плюшчай*

## Дзядзька

Мой дзядзька – Плюшчай Аляксандр Пятровіч (1922 г.н.) – стаў легендай нашага роду. Быць лётчыкам – яго дзіцячая мара. Яшчэ падлеткам зацягваў на саламяны дах свіное карыта і пікіраваў уніз; тайком ад маці, маёй бабулі, браў прасціны, рабіў з іх парашут, залазіў на самае высокае дрэва і асвойваў сваё прыстасаванне. Яму вельмі пашанцава – не разбіўся. Пасля школы паступіў у Ленінградскае вышэйшае лётнае вучылішча, прайшоў курс навучання і – на фронт. Выжыў. Пасля вайны дзядзька працаваў выкладчыкам у вучылішчы, якое некалі скончыў. Па радыё мы слухалі аб прысваенні яму звання. Калі дзядзька прыязджаў на пабыўку, ішоў па вёсцы ў ваеннай форме, нельга было стрымаць захапленне. Хлапчукі нясмела прасілі прымераць галаўны ўбор з какардай. Я любіла слухаць, калі ён гаварыў аб палітыцы, аб вайне з другім маім дзядзькам, Іларыёнам. Сёння дзядзька Саша жыве ў Санкт-Пецярбурзе. Хварэе, але працуе за сваім пісьмовым сталом. Я жадаю яму добрага здароўя. Дзядзька застаўся адзін з вялікай сям'і Пятра Уладзіміравіча і Еўдакіі Васільеўны Плюшчай. Іх, братоў і сясцёр, было адзінаццаць.



*Аляксандр Пятровіч Плюшчай з жонкай Валянцінай Аляксандраўнай і ўнукам Уладзімірам*
Фотаздымак зроблены 25. 05. 2013 г.

# МАЛАДЫЯ ГАЛАСЫ

15 траўня 2013 г. стала сапраўдным святам для ўдзельнікаў магілёўскага гарадскога літаратурнага клуба "Святліца" Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Агат".

Ва ўрачыстай атмасферы была прэзентавана кніга "Святло "Святліцы"" з творчымі работамі маладых паэтаў, якія на працягу навучальнага года спрабавалі свае здольнасці ў вершаскладанні пад кіраўніцтвам паэтэсы, настаўніка вышэйшай катэгорыі, сябра ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Тамары Пятроўны Аўсяннікавай.




Нямала намаганняў было прыкладзена як кіраўніком літаратурнага клуба, так і самімі навучэнцамі, каб асэнсаваць пачутае, зразумець сябе часткаю прыроды, натхніцца і напісаць першы верш, няхай яшчэ кволы, недасканалы.



*Тамара Аўсяннікава*

Гэта адзначылі і паважаныя госці, паэты Эдуард Мядзведскі і Надзея Палубінская, якія прыйшлі падтрымаць маладых аўтараў, паслухаць іх, а таксама прачытаць свае творы.



*Эдуард Мядзведскі*



*Вершы чытае Надзея Палубінская*

Прыемна адзначыць, што актыўны ўдзел у творчым жыцці сваіх дзяцей прымаюць іх бацькі. На сустрэчу прыйшлі Ліліт Папікян, Алена Міхайлава, Анжаліка і Аляксандр Волкавы, якія выказалі словы ўдзячнасці за працу клуба.



Спадзяемся, што "Святло "Святліцы"" гэта хоць і першае, але не апошняе выданне маладых літаратараў гарадскога клуба. Жадаем удзельнікам гэтага творчага аб'яднання натхнення, творчых поспехаў, новых вершаў.

Фотаздымкі Максіма Камарова

**Б.П.**



# Згадкі пра паэта




Часопіс «Бібліятэка прапануе», які выдае Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк г.Мінска, у № 5, 2013 змясціў артыкул бібліятэкараў Слаўгарадскай цэнтральнай бібліятэкі Надзеі Куратавай і Тамары Завадскай «Час чытаць кнігі роднай краіны». Частка артыкула прысвечана паэту-франтавіку **Феліксу Уладзіміравічу ШКІРМАНКОВУ.**



На протяжении года проводились различные по форме и содержанию мероприятия, которые, на наш взгляд, содействовали активизации интереса к белорусской литературе и языку.

Наиболее яркими и запоминающимися были мероприятия, которые проходили с приглашением известных людей.

Так, на презентацию книги «Ты рядом — значит, я живу» был приглашен автор, писатель-земляк Ф.В.Шкирманков. Прошло мероприятие в форме заседания краеведческо-патриотического клуба «Радимичи» и было посвящено Дню святого Валентина — празднику всех влюбленных. Сборник стихов Феликс Владимирович посвятил своей жене — Вере Васильевне. На мероприятии автор представил свое творение, рассказал о первой встрече со своей будущей женой и о том, что же это за чувство — любовь. Пожелал всем найти свою «вторую половинку» и прожить с ней в любви и согласии всю жизнь. Все прозвучавшие стихи были из нового сборника и посвящались высокому чувству — любви к женщине.



*Презентация книги Ф.В.Шкирманкова*

Ко Дню Победы в библиотеке был оформлен вернисаж военных книг «Литературный парад Победы». У выставки для учащихся 10–11 классов провели обзор литературы «Великая Отечественная война глазами белорусских писателей», целью которого было рассказать о наиболее значительных по содержанию и идейной направленности произведениях, посвященных войне, познакомить с новинками. Особое внимание уделялось произведениям нашего писателя-земляка, ветерана ВОВ Ф.В.Шкирманкова. Отрадно было видеть, что материалы с выставки заинтересовали юных пользователей.

## Мікалай РУБЦОЎ Элегія



*Стукнуў па кішэні –*
*не звініць.*
*Па другой прыстукнуў –*
*не чуваць.*
*У якісь таемны свой зеніт*
*Паляцелі думкі спачываць.*

*Схамянуся, выйду за парог*
*І пайду за ветрам*
*над расой*
*Пра самоту пройдзеных*
*дарог*

*Шапацець астаткам*
*валасоў.*

*Памяць адбіваецца ад рук*
*І з-пад ног збягае*
*маладосць.*
*Сонейка акрэслівае круг,*
*Кроплямі жыццё*
*скідае дождж.*

*Стукну па кішэні –*
*не звініць,*

*Па другой прыстукну –*
*не чуваць.*
*Восць калі вядомасць*
*ап'яніць,*
*То паеду ў Крым*
*адпачываць.*

Пераклад Міхася БУЛАВАЦКАГА.

## Літаратурна - музычная вечарына






**26 мая 2013 года ў магілёўскай гарадской бібліятэцы імя К.Маркса адбылася літаратурна-музычная вечарына «Споведзь салдацкага сэрца", на якую былі запрошаны вайскоўцы магілёўскай вайсковай часткі 5523 унутраных войскаў Міністэрства унутраных спраў. Бібліятэкары Ірына Цінякова і Святлана Міхальчук распавялі пра беларускіх паэтаў – удзельнікаў 2-й Сусветнай вайны. Гучалі вершы, якія суправаджаліся цікавай і змястоўнай відэапрэзентацыяй. Магілёўскі паэт Алесь Казека пазнаёміў слухачоў са сваёй новай паэмай "Марылька", дзе наяве паўстаюць старонкі трагічнага лёсу магілёўскай вескі Боркі, спаленай разам з жыхарамі 15 чэрвеня 1942 г.**



*Ірына Цінякова і Святлана Міхальчук*



*Алесь Казека*



*Уладзімір Карпухін*

**Пра свае баявыя шляхі расказаў удзельнік уваходу савецкіх войскаў у Афганістан гвардыі прапаршчык Уладзімір Карпухін. Ён адзначыў, што ў тыя часы яму вельмі дапамагалі думкі аб роднай Беларусі, якія часам клаліся ў вершаваныя радкі. Прысутныя ўважліва паслухалі некалькі твораў У.Карпухіна ў аўтарскім выкананні.**



*Выступаюць Мікола і Ала Яцковы*

**Паэт і кампазітар Мікола Яцкоў музычна знітаваў вечарыну – у аўтарскім выкананні прагучалі ягоныя песні на вершы Аляксея Пысіна, Алеся Казекі і Уладзіміра Карпухіна. А песню "А ў бары, бары..." на верш Янкі Купалы дружна і з вялікім задавальненнем спявалі ўсе прысутныя.**

*Аліна САВІЦКАЯ.*






## Віталь Еўмянькоў - у "Нашай Ніве"

*Прапануем вашай ўвазе нарыс В.Еўмянькова "Шэсць японскіх шляхціцаў", якія 22 мая 2013 г. на сваіх старонках змясціла "Наша Ніва".*



# Шэсць японскіх шляхціцаў

## Пра што пісалі «газеты» Рэчы Паспалітай?

Гэтыя ананімныя лісткі хадзілі па краіне ў «эпоху Жыгімонтаў». Іх выдавалі перасоўныя друкарні, якія знаходзіліся ў Кракаве і Вільні або ў абозе каралеўскага войска. Называліся гэтыя выданні «навінкі» («сеймавыя навінкі»), «рэляцыі» (апісанні). Многія з іх мелі непасрэднае дачыненне да Беларусі.

Чыталі іх людзям з амбонаў. Ксяндзы былі першымі «дыктарамі навін», а калі трэба — і аналітыкамі. «Калі бяда якая здарыцца, то найхутчэй пра яе паведамяць «навінкі», хоць часам і схлусяць», — так характарызавалі іх сучаснікі.

### «Навіны грозныя, жахлівыя і жалобныя»

Першыя вядомыя друкаваныя «навінкі» датуюцца 1557. Невядомы аўтар пісаў пра міжнародную палітыку: дамоўленасці паміж Папам і цэзарам і «новай і вартай здзіўлення паразе турак».

У хуткім часе прыйшлі звесткі пра войны ва ўласнай хаце. У 1563 у выпуску, названым «навіны грозныя, жахлівыя і жалобныя», апавядалася, як «вялікі князь маскоўскі са зброяй на зямлю літоўскую падступна ўварваўся; палячы ўсё на сваім шляху і забіваючы людзей, бессаромна і не зважаючы на хрысціянскую міласэрнасць гарады і замкі здабыў і вялікую шкоду ўчыніў».



**Віталь Еўмянькоў**

дацэнт, кандыдат філалагічных навук. Працуе ў МДУ імя Куляшова (Магілёў). Даследуе гісторыю і літаратуру Рэчы Паспалітай у XVII-XIX стст. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар больш за 100 навуковых публікацый.

Вайне з Іванам Жахлівым былі прысвечаныя і наступныя «навінкі» 1564-га. Яны друкаваліся ў пражскім Старым градзе і называліся «важныя навіны з зямлі Літоўскай».

А ў «навінах праўдзівых» ад 1579 паведамляецца пра тое, што літвінамі «ўжо ўзяты знакаміты замак Полацк, які знаходзіцца на літоўскім памежжы».

Як бачым, выданні сачылі за развіццём сітуацыі.

### Кароль гаворыць

Першым гаспадаром, які ацаніў магчымасці друкарні, быў Сцяпан Батура. Падчас вайны з Масквой у каралеўскім абозе ехала паходная друкарня, якая дазваляла манарху кіраваць дзяржавай дыстанцыйна. Баторый выдаваў эдыкты на лаціне і па-польску, якія загадваў, акрамя ўсяго іншага, чытаць у касцёлах. Яны былі прысвечаныя розным бакам жыцця. Адзін з іх называецца «Артыкулы вайсковыя па загадзе Яго Каралеўскай Мосці агалошаныя». Кароль мусіў, відаць, умацаваць дысцыпліну войска. Працытуем найбольш красамоўны артыкул №5: «Калі б хто ў абозе або падчас паходу сварку распачаў, пакараны судом Яго Каралеўскай Мосці будзе; калі б хто іншага забіў, будзе асуджаны; калі б хто меч на іншага ўзняў — руку той страціць».

### Ідэалагічная прапаганда

«Узялі мы мужыка простага Ягайлу і зрабілі з яго караля, далі яму высакародную каралеву», — пісаў у «Люблінскіх навінах» ад 1567 «грамадзянін Каралеўства», які пажадаў застацца невядомым. Ён даводзіць, што «аб'яднанне з Польшчаю Літва павінна лічыць вялікім для сябе шчасцем», бо «падаравалі продкі нашы Літве свабоду, бо касілі літвіны сена і былі рабамі ў паноў сваіх».

На жаль, у «навінках» не захавалася палемічных меркаванняў жыхароў ВКЛ на гэты конт.



**Найбольш у першых «Навінках» пісалі пра Лівонскую вайну. На гравюры: аблога Полацка войскамі Івана Жахлівага.**



**«Чытаў, што пішуць?» — ліцвінская шляхта XVI ст.**

### З Японіі і Кітая

Друкары паведамлялі пра палітычныя і ваенныя падзеі ў Францыі, Германіі, Турцыі, Італіі. Але часта ў «навінках» з'яўляліся паведамленні і з экзатычных краін «новага свету». Напрыклад, у 1608 жыхары Рэчы Паспалітай чыталі трагічную гісторыю пра «слаўную смерць шасці японскіх шляхціцаў, якую яны прынялі ў імя Ісуса Хрыста».

У 1616 з'яўляюцца «навіны або двухгадовыя падзеі (1606 — 1607), што мелі адбыцца ў Японіі і Кітаі, краінах язычніцкіх, новага свету». Гэта справаздача аб місіянерскай дзейнасці двух езуіцкіх прапаведнікаў. Яшчэ адна навіна з Японіі датуецца 1625: «118 пакутнікаў жахліва закатаваныя ў імя Ісуса Хрыста; забітыя мячом, агнём і вадой. Хвалы вечнай праз пакуты свае яны дасягнулі».

### Маскоўскі вектар

На мяжы XVI — XVII стст. асноўнай тэмай «навінак» была Масква. «Смута» і літоўска-польскія перспектывы на Усходзе — усё гэта выклікала цікавасць у чытацкай публікі ВКЛ. У 1608 пэўны шляхціц з Літвы «праінтэрв'юіраваў» пасланца маскоўскага князя, распытаўшы, «што з Дзмітрыем, а таксама з палякамі ў маскоўскай сталіцы адбылося». У тым самым годзе апублікаваныя «навіны з Масквы аб уступленні цара Дзмітрыя на царства, дасланыя ім пані ваяводзіне сандамірскай Мнішкавай».

У 1609 «маскоўская тэма» зноў асвятляецца. «Навінкі» пішуць пра ваенныя перамогі, але між радкоў спрактыкаваны літвін мог прачытаць не вельмі прыемныя звесткі: «Найяснейшы і непераможны Яго Мосць Кароль Польскі, быўшы з войскам у Маскве, не жадаючы, каб кроў хрысціянская патыранску лілася, маючы намеры выключна добрыя і нават ласкавыя, паслоў сваіх дасылае... да маскоўцаў, абяцаючы захаваць ім усе іх правы, свабоды і рэлігійныя абрады, калі яны яго добраахвотна панам і абаронцам прызнаюць».

Паслоў да пераможаных не шлюць. Чытаючы гэткія навіны, і ў Кракаве, і ў Вільні рабілі аднолькавую выснову: вынік вайны няпэўны. Праз колькі месяцаў у віленскай друкарні Яна Карцана рыхтуецца новая рэляцыя аб ваеннай выправе ў Маскву. Там ёсць цікавая прыпіска друкара: «Каб толькі тая выправа з Боскай дапамогай была шчаслівая і для Рэчы Паспалітай нашай карысная».

У 1610 бясконцыя маскоўскія навіны трохі разбавілі свецкай хронікай: паведамляецца пра «каранацыю Марыі Мэдычы, каралевы Французскай і Наварскай». А пасля — зноў звесткі з усходняга фронту. Паходная друкарня падае з-пад Смаленска «апісанне пасольства цара Дзмітрыя да Яго Мосці Гетмана і да Іх Мосцяў паноў Сенатараў, а таксама да ўсяго рыцарства». У 1611 спачатку віленская, а потым і кракаўская друкарні друкуюць «Трыумф радасны з прычыны ўзяцця Смаленска» войскам Жыгімонта Вазы.

### Рэлігійныя супярэчнасці

У «рэляцыях» пачатку XVII ст. адчуваецца подых рэлігійных супярэчнасцяў таго часу. «Навінкі» за 1614 пішуць аб «гвалтоўным спыненні ерэтыкамі каталіцкага набажэнства». У 1619 нехта Ян Зрэнчыцкі выступіў у ролі ўласнага карэспандэнта вялікакняскай канцылярыі ў Чэхіі: ён інфармуе землякоў аб каталіцка-пратэстанцкай вайне і аб тым, што «кракаўскія жыды таемна чэшскім пратэстантам даслалі 1800 злотых». У 1620 з'яўляюцца «праўдзівыя навіны» аб спробе забойства караля і яго шчаслівым выратаванні.

### Жаўцізна

Чым далей ад XVI ст., тым больш матэрыялаў маюць аўтарства. Нярэдка карэспандэнцыі з месцаў змяшчаюць інфармацыю сенсацыйнага характару. Так, у 1632 украінскі шляхціц Станіслаў Рашыньскі дасылае паведамленне, якое друкуе каралеўскі тыпограф Ю.Расоўскі: «Запарожскія казакі, ехаўшы недалёка ад Белай Царквы, пачулі на адной гары крыкі і поклічы... Ажно некаторыя з іх насмеліліся, пад'ехалі пад гару, якая зараз жа расступілася, і струмень крыві з вадой выплыў з яе і куль нямала вывалілася. У якасці доказу гэтага здарэння ёсць у Варшаве адна куля, вылітая з нейкага клейкаватага матэрыялу, да смалы падобнага, з пахам серы. Калі па кулі ўдарыць жалезам — іскры сыпяцца».

### Рэклама

У 1633 побач з навінамі з Масквы быў змешчаны верш, які сёння варта было б залічыць у шэраг рэкламных:

«Пытаеш навінаў, быў бы рады чытаць,  
з-пад Смаленска просіш  
хоць штось напісаць,  
Абяцаеш ахвотна і шмат заплаціць,  
не спяшайся, мой мілы, тут многа згубіць.  
Дай за друк дзесяць грошаў усяго — і чытай.  
Схочаш новых — яшчэ ў друкарні спытай».

### Эксклюзівы

Адна з рэляцый 1634-га ўтрымлівае, сённяшняй мовай, файлы Вікілікс: «альбо ўрыўкі з допісаў паноў радных зямлі Маскоўскай, якія цару падаваліся (у допісах тых раілася заключыць мір з каралём Яго Мосцю Гаспадаром нашым літасцівым)».

Аўтар апавядае, што маскавіты, абложаныя войскамі Рэчы Паспалітай у Смаленску, дужа напалоханыя, Шэін, «гетман іх генеральны, з усім абозам сваім і войскам дужа ад голаду, марозу і хвароб церпіць».

Чым далей, тым больш тэматычна разнастайнымі і частымі рабіліся «навінкі», адкрываючы ўсё шырэйшы свет чытачам. У іх ёсць звесткі аб еўрапейскіх войнах, палітыцы, дзівосах, прыродных катаклізмах. Апошняя рэляцыя, якая датуецца 1643, паведамляе пра «жахлівую паводку ў Італіі».

Тым часам над Рэччу Паспалітай абодвух народаў збіраліся хмары. Шведскі «патоп», крывавая вайна з Масквой, змаганне з туркамі, бясконцыя казацкія войны, унутраныя супярэчнасці абяскровілі дзяржаву. Ці да «навінак» і «рэляцый» было! Працэс пераўтварэння гэтых друкаваных лісткоў, голасу дзяржавы і царквы, у голас грамадства запаволіўся на стагоддзі.

**Віталь Еўмянькоў**

### Барбара Радзівіл вачыма замежнікаў

Асобны від рэляцый — справаздачы замежных паслоў. Навіны гэтыя, хоць і прызначаліся для нешматлікіх чытачоў, хутка разыходзіліся па Еўропе, перадаючыся з вуснаў у вусны. Так, нунцый Грацыані, сакратар пасла Ватыкана пры двары Жыгімонта II Аўгуста, паведамляе, што кароль спачувае пратэстантам. Малюе Грацыані партрэты караля і яго жонкі Барбары Радзівіл. Жыгімонт, на яго думку, — чалавек распусны і непрадказальны. Барбара — жанчына легкадумная, «якая дзеля цяжарнасці прымала без разбору ўсялякія лекі, чым смерць сабе прыспешыла».

# Уладзімір Ліўшыц

## Горацкія сябры Янкі Купалы





( Працяг. Пачатак у № 15-20 )

Асабліва добра іграла Паўліна, якая і стварыла сапраўдны поспех спектаклю.

На сцэну выклікалі аўтара – Янку Купалу, якому пецярбургскія студэнты прэзэнтавалі гадзіннік з выгравіраваным надпісам:



Янка Купала сярод сябраў беларускага літаратурна-навуковага гуртка студэнтаў Санкт-Пецярбурскага ўніверсітэта пасля другой пастаноўкі п'есы «Паўлінка»

*"Бацьку "Паўлінкі" ад беларускіх студэнтаў".* А Купала падараваў Паўліне два экзэмпляры п'есы, на адным з якіх быў напісаны прысвечаны ёй верш.

У шмат якіх аўтараў можна прачытаць аб тым, што Янка Купала ў гэты час быў вельмі закаханы ў Паўліну. Так, А.Лойка ў кнізе "Янка Купала", што выйшла ў серыі "Жизнь замечательных людей", піша, што пасля спектаклю Я.Купала праводзіў Паўліну да хаты і вяртаўся ноччу *"...закаханы ў яе без памяці"* (О.Лойка. Янка Купала. —М., 1982. С.118).

А ці прапаноўваў Купала Паўліне выйсці за яго замуж? Гэта пытанне я асмеліўся задаць Паўліне Вінцэнтаўне ў час нашай сустрэчы ў 1970 годзе.

– Так, прапаноўваў, — пасля вялікай паўзы адказала яна.

– І чаму ж вы яму адмовілі?

– Было мне тады ўсяго 20 гадоў. Жадала далей вучыцца. І хоць я кахала яго, мне думалася, што патрэбен час, каб праверыць нашы пачуцці. Да таго ж пасля нашай сустрэчы ў Вільні, калі ён вельмі жартаўліва сябе са мной паводзіў, думалася, што Я.Купала не вельмі сур'ёзна адносіцца да мяне.

Я не стаў пытаць аб тым, ці шкадавала Паўліна Вінцэнтаўна аб адказе Янку Купалу.

Але цікава, што ў яе ўспамінах ёсць такая замалёўка, якая, на наш погляд, адказвае на многія пытанні. *"У 1929 годзе прыехала з Заходняй Беларусі мая матка адведаць мяне. Я павяла яе да Купалаў, пазнаёміла з маткай Янкі. Доўга сардэчна гаварылі між сабой дзве бабулі.*

*– Чаму гэта не Паўлінка твая сынава, – казала матка Янкі. – Чаму ж яна яму адказала?*

*– Бо дурная была, – адказала мая матка, – жартачкі, адмовіць такому важнаму чалавеку, як ваш сын."*

У далейшым жыццё яе кідала з месца на месца. Жыла ў Вільні, потым у Царыцыне, восенню 1915 года зноў пасяляецца ў Пецярбургу. У 1917-1918 гадах настаўнічае ў Жорнаўскай пачатковай школе ў маёнтку княгіні Радзівіл, адтуль пераязджае ў Мінск, дзе працавала таксама ў школе.

Затым інструктар беларускіх школ у Гродна. Была двойчы арыштавана польскімі ўладамі, і быў момант, калі яна рыхтавалася да расстрэлу. А потым зноў турмы — Варшаўская і Вронкі на Познаньшчыне, потым настаўніцкая праца.

У 1921 годзе па прапанове Ц.Гартнага яна працавала ў выдавецкім аддзеле пры савецкім пасольстве ў Берліне, дзе было наладжана выданне падручнікаў для беларускіх школ. Потым быў яшчэ адзін арышт, і суд у Латвіі, дзе працавала ў беларускай гімназіі ў Дзвінску.

У красавіку 1925 года суд апраўдаў Мядзёлку і яе таварышаў. Тады яна прыняла рашэнне вярнуцца ў Савецкую Беларусь.



(Заканчэнне будзе)

# ТРАВЕНЬСКАЕ ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ СБП



28 траўня 2013 г. адбылася Рада ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў". На парадак дня былі вынесеныя наступныя пытанні: -- Прыём у сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў; -- Даклады пра працу абласных аддзяленняў арганізацыі; -- Рознае.

Як паведаміў старшыня ГА "Саюза беларускіх пісьменнікаў" Барыс Пятровіч, падалі заявы на ўступленне ў СБП дзесяць творцаў, восем з якіх прайшлі прыёмную камісію, што адбылася 20 мая. Гэта выдавец, паэт, журналіст Валерый Дубоўскі, публіцыст і аўтар журналісцкіх даследаванняў, супрацоўнік "Радыё Свабода" Валерый Каліноўскі, журналістка і пісьменніца Дар'я Ліс, краязнавец і журналіст, супрацоўнік газеты "Наша Ніва" Сяргей Макарэвіч, паэтэса, журналістка і мастачка Святлана Раманава, даследчыца, перакладчыца і паэтэса Наталля Русецкая, філолаг і празаік, лаўрэат прэміі "Дэбют" імя Максіма Багдановіча Наталка Харытанюк (Бабкова), пісьменнік, журналіст і менеджар па рэкламе Аляксей Чубат.



Барыс Пятровіч



Валерый Дубоўскі



Валерый Каліноўскі



Дар'я Ліс



Сяргей Макарэвіч



Святлана Раманава



Аляксей Чубат

Фотаздымкі Алены Казловай

Падліковая камісія ў складзе С.Законнікава, Г.Далідовіча і Г.Дубянецкай у выніку правядзення ананімнага галасавання абвесціла, што ў ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" прынятыя ўсе восем кандыдатаў.

Даклады пра дзейнасць абласных аддзяленняў СБП былі агучаныя прадстаўнікамі з Брэста, Магілёва, Гродна, Гомеля. Аповеды датычыліся выдання рэгіянальных альманахаў і інфармацыйных бюлетэняў, супрацоўніцтва са школамі і ўніверсітэтамі, працы з моладдзю. Старшыня ГА "СБП" Б.Пятровіч акрэсліў пытанні па Віцебскім абласным аддзяленні, якое зараз аднаўляе сваю дзейнасць.

Пасяджэнне Рады завяршылася абмеркаваннем бягучых пытанняў грамадскай арганізацыі.

*Паводле http://lit-bel.org/*

# "Афіцэры" сталі "народнымі"

31 мая 2013 г.,напярэдадні Міжнароднага дня абароны дзяцей, у Мсціслаўскім раённым цэнтры культуры і народнай творчасці адбыўся дабрачынны канцэрт вакальнага калектыву супрацоўнікаў Мсціслаўскага РАУС «Афіцэры» (кіраўнік маёр Віталь Астанковіча), прымеркаваны да гэтай знамянальнай даты. Канцэртная зала была перапоўненая.

Важным для супрацоўнікаў РАУС падзеяй стала прысваенне Міністэрствам культуры звання «Народны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь» .

Падчас канцэрта ў зале прагучалі песні розных кампазітараў, у тым ліку і магілёўскага кампазітара Мікалая Яцкова, які напісаў больш за тысячу песень.



Мікола Яцкоў



Ён таксама з'яўляецца старшынёй абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Мікалай Адамавіч падзякаваў супрацоўнікаў міліцыі за іх творчую працу, пажадаў новых перамог і ўручыў кіраўніцтву раёна ноты гімна Мсціслава (словы В.Астанковіча) .



*Паводле газеты "Магілёўскія ведамасці".*

Фота Уладзіміра Сінкевіча.

"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь Магілёўскага абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 31.05.2013 г.. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.